# Больш давер'я нашым дзецям

Пачаўся новы навучальны год. Ізноў, як заўсёды, у гэту пару справа навучання і выхавання нашых дзяцей займае значнае месца ў нашым друку. Многа ёсць вестак аб добрай і дрэннай падрыхтоўцы нашых школ да першых школьных заняткаў, аб недахопе школьных падручнікаў і іншых школьных прылад. На старонках прэсы з'яўляюцца таксама артыкулы і больш агульнага зместу, у якіх стараюцца зрабіць аналіз нашых памылак у выхаваўчай працы, як сям'і, так і школы.

Рэдка, аднак, закранаюцца справы ўздзеяння асяроддзя на выхаваўчую працу. А такія спрэчкі на старочках друку вельмі пажаданыя.

Не адкрыю ніякай навіны, калі асмелюся сказаць, што сярод нашай грамадскасці існуе перакананне, што адказнасць за выхаваўчую працу над маладым пакаленнем нясе, перш за ўсё, школа і дом. Калі ж нашым дзецям нехапае ветлівасці ў адносінах да старэйшых, хто ў гэтым вінаваты? Чуецца адказ: школа і дом. Аднак не заўсёды так бывае. Бываюць выпадкі, калі наша грамадскасць жуе выхаваўчую працу бацькоў і настаўнікаў. Часта гэта робіцца несвядома, а бывае гэта так таму, што некаторыя адзінкі нашай грамадскасці ўяўляюць нашае маладое пакаленне як нешта адно, ды пры тым самае дрэннае. Не стараюцца сярод гэтай масы бачыць адзінак добрых, на якіх можна з усёй поўнасцю разлічваць на ўсё добрае. Такія ўяўленні аб нашай моладзі існуюць пераважна сярод нашага старэйшага пакалення, не вылучаючы тут нават інтэлігенцыі.

Няма давер'я нашым дзецям, а гэта адыгрывае вельмі шкодную ролю ў выхаваўчай працы.

Аднойчы я быў сведкам такога здарэння:

Вуліцай праходзіла пані «х», трымаючы ў руцэ сетку з пакупкамі. Калі з сеткі выпала купленая рэч, хлопчык ветлівымі словамі звярнуў гэтай пані ўвагу. Мож думаеце паважаныя чытачы, што гэтая пані падзякавала хлопцу за яго ветлівасць і ўвагу. Не, так не здарылася. Пані «х» праўда, адазвалася:—Выпала, то падымеш, — і не звяртаючы ўвагі на сваю сетку, пайшла далей, падняўшы галаву ўгору, як бы ўсё было ў парадку. А хлопчык, (ён нас у гэтым выпадку больш цікавіць), апусціў, бедны, галоўку, і моцна пачырванеўшы вольна пайшоў у свой бок. Што ж ён падумаў? Думкі яго напэўна былі непрыемныя. Пазнаў ён на сваёй скуры, што ветлівасць у жыцці не аплачваецца, нават тады, калі гэта адносіцца да людзей, якіх мы залічаем да ліку інтэлігенцыі (пані «х» па прафесіі — доктар). Напэўна, гэты хлопчык, калі будзе зноў сведкам падобных рэчаў, не зверне на гэта ўвагі, а гэта ўжо будзе вельмі дрэнна.

Чаму ж так дзеецца, чаму пані «х» не звярнула ўвагі на ветлівую заўвагу хлопчыка, чаму яму не падзякавала? Думаю, што гэта пані страціла ўсё сваё давер'е да нашых дзяцей, не хоча яна бачыць іх добрых пастукаў.

Такія адносіны старэйшага пакалення да нашай моладзі школьнага ўзросту шкодзяць выхаваўчай працы нашых школ. Праўда, сярод нашых дзяцей з'яўляюцца і дрэнна выхаваныя, але ці падумалі мы аб тым, што мы можа і самі ў гэтым вінаваты?

На мой погляд, больш ветлівасці, больш давер'я старэйшага пакалення ў адносінах да дзяцей прынясе вялікую карысць выхаваўчай працы бацькоў і школ.

Ф. Б

## Не выкарыстоўваецца плошча будынка

У Аўгустове (Бельскі павет) стаіць вялікая і прыгожая школа. Школа ўсіх комнат, каб нават і жадала, дык не можа выкарыстаць. Па думцы жыхароў Аўгустова свабодныя комнаты можна было б выкарыстаць на фэльчэрскі пункт. Тут жа магла б мець памяшканне і акушэрка. З услугаў фельчара і акушэркі маглі б карыстацца ўсе навакольныя вёскі, так што працы хапіла б. Трэба толькі, каб аддзел аховы здароўя зацікавіўся гэтай справай і накіраваў бы на вёску сваіх спецыялістаў.



*Сланечнік і дзяўчына.*
*Фото — В. Касакоўскі*

## І на Беласточчыне родзяцца паэты...

З беларускага асяроддзя Беласточчыны выйшла значная колькасць маладых беларускіх паэтаў і празаікаў, якія гуртуюцца ў літаратурныя аб'яднанні пры нашай «Ніве».

Беластоцкай зямлі ўжо сёння прыносяць славу ў беларускай савецкай літаратуры, можна сказаць «масцітыя» маладыя пісьменнікі, як П. Макаль і А. Карпюк, члены Саюза Пісьменнікаў БССР.

У гэтым годзе ў Мінску выйшла з друку кніжка вершаў Пятруся Макаля. «Вятрам насустрач». Гэта ўжо другі зборнік паэзіі даравітага маладога беларускага паэта. Пятрусь Макаль — наш зямляк. Нарадзіўся ў вёсцы Крушыняны Сакольскага павета. У 1946 годзе разам з бацькамі выехаў у БССР. Закончыў Гродзенскі Педагагічны інстытут. Цяпер працуе ў часопісе «Маладосць» у Мінску.

Таксама нашым земляком з'яўляецца малады беларускі празаік А. Карпюк, родам з Беласточчыны. У гэтым годзе А. Карпюк выступіў са зборнікам аповесцей і апавяданняў «Дзве сасны».

Неабходна заўважыць, што ў творах П. Макаля і А. Карпюка знайшлі адлюстраванне дзіцячыя гады, праведзеныя на Беласточчыне. (мг)

## Ад 1 верасня падпіска на савецкія газеты і часопісы

Ужо ад 1 верасня ва ўсіх установах «Руху» на Беласточчыне прымаецца падпіска на 1959 год на савецкія газеты і часопісы.

Трэба, каб беларускае грамадства шырэй чым дагэтуль зацікавілася беларускімі савецкімі газетамі і часопісамі. Можна выпісаць і практычны нашым гаспадарам часопіс «Работніца і Сялянка», у якім ёсць прыгожыя ўзоры да вышывак, кройкі і моды. Можна атрымліваць багата ілюстраваны і таксама з узорамі да вышывак часопіс «Беларусь» і «Маладосць».

Пачынаючыя нашыя літаратары абавязкова павінны выпісаць літаратурны часопіс «Полымя», або ілюстраваную «Маладосць». Тым, хто цікавіцца навуковымі праблемамі, раім аформіць падпіску на «Весці Акадэміі Навук БССР». Варта таксама выпісваць штодзённыя газеты, як: — «Звязда», «Чырвоная Змена», «Піянер Беларусі» і інш.

(ся)

## Гарадоцкі драмгурток



*З пастаноўкі п'есы «Суседка»*
*Фото — Ул. Пучынскі.*

## Старэйшы беларускі эсперантыст

Старэйшым у свеце эсперантыстам (чалавекам, які ведае і карыстаецца міжнароднай мовай эсперанта) з'яўляецца заснавальнік беларускай дзіцячай літаратуры Янка Маўр (І. М. Фёдараў). Янка Маўр — самы стары беларускі пісьменнік. 11 мая 1958 года мінула яго 75 гадавіна жыцця і 35 гадавіна літаратурнай дзейнасці.

Таленавіты пісьменнік, калі яшчэ працаваў настаўнікам, у 1904 годзе, вывучыў эсперанта і пачаў перапісвацца на гэтай мове з настаўнікамі амаль усіх кантынентаў свету. Гэта дало пісьменніку магчымасць сабраць надзвычай цікавы і каштоўны матэрыял аб жыцці моладзі ў Афрыцы, Паўднёвай Амерыцы, Аўстраліі, Інданэзіі і іншых. Сабраныя такім чынам звесткі, Я. Маўр выкарыстаў у сваёй творчасці. Апавяданні «Сын вады», «Слёзы Тубі», «У цясніне» і шмат іншых, напісаны ў асноўным на матэрыяле, які аўтар сабраў шляхам міжнароднай перапіскі.

Адной з апошніх карэспандэнцыі беларускага эксперантысты быў павіншавальны ліст Я. Маўра з гэтага года ў адрас балгарскага эсперанцкага часопіса «Нунтэмпо Булгаріо».

(мг)

здабылі сабе цвёрдыя пазіцыі ў прафсаюзах, пры дапамозе якіх арганізавалі ўсе забастоўкі і вулічныя дэманстрацыі.

Партыя мела шмат сваіх прыхільнікаў у класавых прафсаюзных арганізацыях. Рабочыя Янка Крычко, Антон Ямразінскі орача падтрымлівалі і папулярызавалі лозунгі Камуністычнай партыі паміж сваімі прафсаюзнікамі. Верным дапаможнікам партыі на кожным кроку быў КСМЗБ. Райком КСМ-а, якім кіравалі Фёдар Назарук і Герш Врубэль, арганізаваў на лесапільным даволі шматлікую ячэйку. КСМ-оўцы развівалі сваю дзейнасць у Таварыстве Рабочага універсітэта, які налічваў каля 120 членаў. Мадлінскі падкрэслівае, што камуністы перацягнулі на свой бок 40 працэнтаў членаў ТУР-а. У сапраўднасці Саюз Камуністычнай моладзі поўнасцю авалодаў Турам. Паліцыя некалькі разоў ліквідавала ТУР спадзяючыся, што такім чынам пазбавіць яго камуністычных уплываў, аднак усе намаганні аказаліся дарэмнымі. Моладзь ішла ў першых радах першамайскіх дэманстрацый, актыўна ўдзельнічала ў арганізаванні забастовак, распаўсюджванні партыйнай літаратуры, зборцы МОПР-аўскіх складчын і г. д. Лістоўкі заклікалі моладзь да барацьбы да афензівы супроць фашызма.

У першай палове чэрвеня 1933 года рабочыя начной змены дрэваапрацоўчага прадпрыемства паднялі другую забастоўку, супраць звальненню 14 рабочых прадпрыемства. Сігнальны гудок завадской сірэны ўключаны Сцяпанам Касіллам апавясціў пачатак забастоўкі. Праз некалькі гадзін ад аб'яўлення чорнага спіска ўвесь лесапільны завод спыніў працу. Рабочыя натоўпам рушылі ў бок лясных чыгунак, заклікаючы сваіх сяброў салідарызавацца ў забастоўцы супраць бяспраўнаму звальненню 14-ці рабочых. Перад ўваходам забастоўшчыкаў сустрэла ўзброеная паліцыя.

— Хто першы адважыцца прайсці браму — упадзе трупам, — крыкнуў камендант паліцыі. Тысячны натоўп рабочых не спыніўся. Паліцыя напалохана, стала адступаць.

— Вада! — пачуўся загад.

На рабочых палілася гарачая вада. У адказ на гэта, пасыпаўся град камення. Паліцыянты і іх служакі сталі ўцякаць ад вадасоса.

З цэха паказаўся атрад паліцыянтаў у шлёмах — яны зараджаюць вінтоўкі і рухаюцца насустрач рабочым. З боку пачуўся шум матора — на рабочых ізноў палілася гарачая вада. Рабочыя адступаюць на пляц лесапільні. Салідарызаваная забастоўка не адбылася. Паліцыя спыніла рух на лясной чыгунцы. Рабочыя дрэваапрацоўчага прадпрыемства застаюцца самі, без падтрымкі. КПЗБ-оўцы кінулі заклік: ваяваць да перамогі.

Раніцай пляц дрэваапрацоўчага прадпрыемства быў засланы лістоўкамі і адозвамі. Дзе-ні-дзе рабочыя чыталі орган ЦК КПЗБ «Куймы бронь». У 13 нумары газеты за чэрвень 1933 год было напісана: «Гайнаўка абстаўлена паліцыяй. Рабочыя прадпрыемства выступаюць супроць замаха дырэкцыі. Фашыстоўскім правіцелям захацелася выкінуць 14 рабочых, якія сарвалі фашысцкую акадэмію. У выніку гэтага рабочыя распачалі забастоўку. Фашысцкія правадыры 333-та прапіхаюць у рады рабочых з розных аколіц штрайкбрэхераў, каб заступіць імі забастоўшчыкаў. У Гайнаўку прыбылі атрады паліцыі, якія акружылі завод і сцерагуць штрайкбрэхераў.

Забастоўшчыкі прарвалі кардон паліцыі, уварваліся на завод і прагналі штрайкбрэхераў. Паліцыя была вымушана адступіць. За горадам яе абавязкі выконвае паліцыя, якая складалася са здраднікаў. На месца забастоўкі прыехаў павятовы староста, ён паграджаў рабочым, што загадае ўжыць зброю, калі забастоўка не будзе спыненай. З'явіліся таксама прадстаўнікі цэнтральных улад ППС-а, якія намагаліся «супакоіць» рабочых, каб не парушалі яны бяспекі паліцыі і дырэкцыі. Выступіў вядомы мясцовы здраднік Пасяк — сацыяльфашыст, які зараз, пры дапамозе радыкальных фраз, стараецца прыхіліць к сабе рабочых.

«Забастоўшчыкі! Надта дорага заплаціла вы за давер для такіх, як Пасяк. Сцеражыце сябе, не дазваляйце ім выступаць ад свайго імя.

Будзьце самі сабе кіраўнікамі ў барацьбе. Трэба выбраць забастовачны камітэт з рабочых адданых вашай справе. Гуртуйцеся з усім пралетарыятам і сялянствам Белавежскай пушчы. Лясныя рабочыя пушчы! Падтрымоўвайце рабочых дрэваапрацоўчага завода, далучайцеся да салідарызацыйнай забастоўкі і да барацьбы за вашу агульную справу».

*(Працяг будзе)*

© PDF: Kamunikat.org 2022 

РАИМАР ГІЛЬЦЭНБАХ

# Бярлін і яго азёры

**(Артыкул напісаны спецыяльна для „Нівы“)**

Сярод большасці людзей існуе думка, што як быццам бы Бярлін — гэта горад, няўтульны ад вялізных шэрых дамоў з мноствам маленькіх кватэрак, і што ляжыць гэты горад у сухой мясцовасці, у так званай правінцыі Брандэнбург.

— Прыгажосць пейзажу?..

— Не! Тут ужо па меншай меры трэба ехаць у Альпы ці на мора...

Як жа памылкова такая думка! Бярлінцы ведаюць гэта лепш за ўсіх.

Няхай хоць адзін раз хто-небудзь прыдзе летам ў цёплую, сонечную нядзелю на Аляксандраўскую плошчу. Ён застане яе зусім пустою. Дзе ж бярлінцы?!

Яны паехалі за горад. За горад, гэта значыць у лес, гэта значыць на азёры і рэкі.

Чаго варты быў бы Бярлін без яго азёр, без Шпрэі, Дамы, Гавэлі!

Гэта ж ясныя вочы горада, яго лекавая крыніца, рай для аматараў вады!

Бярлінцы любяць свае азёры.

Трэба адчуць, убачыць, якое мноства людзей пануе ў лесе, на беразе, на вадзе, трэба пазнаць, з якім захапленнем, асалодай спяшаюцца бярлінцы ў доўгачаканую нядзелю на сонца, вецер і ваду, трэба пазнаць гэта, каб правільна зразумець, што значыць для працоўных людзей гэта цудоўная прырода ў часе адпачынку.



*Бярлінцы любяць свае азёры...*
*Фота — Тоорэр*

Карысць адпачынку на бярлінскіх азёрах нельга выразіць у марках і пфенігах. Нягледзячы на гэта, і тут ёсць некаторыя лічбы: 31 000 зарэгістрыраваных спартыўных лодак плавае толькі ў дэмакратычным сектары Бярліна, 2 300 000 пасажыраў штогод адпраўляецца на параходах у вобласць бярлінскіх азёр, 20 000 наведвальнікаў умяшчае штодзень толькі курорт Рансдорф, 300 000-амі ацэньваецца лік экскурсантаў у Мюгельскай вобласці ў дзень з моцным наплывам.

Дык вось іменна ў гэтым ляжыць нязмерная карысць азёр для насельніцтва.

Магістрат дэмакратычнага Бярліна ўжо ў гэтым цалкам пераканаўся. З асаблівай руплівасцю ўзяўся ён за бярлінскія азёры. Было пабудавана многа новых лодачных станцый, вялікія гоначныя штрэкі ў Грунау яшчэ павялічыліся. На Мюгельскім возеры, каля курорта, узнік цудоўны, прасторны парк.

Галоўны архітэктар распрацаваў план па ахове адпачынку бярлінцаў на лоне прыроды. Вялікая частка азёр (як гэта ўжо даўно здарылася з Мюгельскімі горамі) павінна быць удзята пад ахову. У дэмакратычным сектары Бярліна аснован «Калегіум па ўзмацненню аховы прыроды», які працуе пад старшынствам сталага прадстаўніка обэрбургаміcтра. Асаблівую ўвагу гэты калегіум звяртае на азёры.

Аднак пры ўсіх гэтых планах, у павышэнні добрабыту працоўных Бярліна ёсць цяжкасці: Бярлін — гэта горад, які раздзелены на дзве часткі, заходні сектар па загаду заходніх улад сам аддзяляецца ад дэмакратычнага Бярліна.

Аднак краявід азёр уяўляе сабою адзінае цэлае. Шпрэя цячэ праз увесь горад на Усходзе, на Захадзе яна ўліваецца ў Гавэль, на якой у азёрных раёнах ляжаць Тэгельскае і Ванскае азёры.

Калі мы хочам зберагчы гэтую прыроду для адпачынку насельніцтва, трэба аднадушна ахоўваць яе.

Аднак заходні сенат выступае супраць усякага агульнага планіравання для курортных вобласцей, больш таго, ён дазваляе нават, каб, напрыклад, у Грунэвальдзе, адной з найбольш вядомых і любімых бярлінцамі вобласцей, праводзіліся манёўры амерыканскіх і англійскіх танкаў і з кожным годам разбураліся ўсё новыя плошчы. А каштоўнасць такіх гарадскіх лясоў нязмерна большая, чым якога-небудзь іншага лесу, бо для кожнага мільённага горада дарагой з'яўляецца кожная кропля зялёнай плошчы.

Многія вялікія гарады Еўропы ўжо страцілі каштоўныя вобласці адпачынку.

Дэмакратычны ж Бярлін хоча паклапаціцца аб сваіх азёрах, бо яго насельніцтва будзе няспынна ўзрастаць, вольны час людзей будзе павялічвацца, будзе ўзрастаць іх дабрабыт. Будзе паглыбляцца любоў да айчыннай прыроды. Што ж азначаюць у гэтых адносінах бярлінскія азёры?

Адказ просты: з кожным годам яны будуць запрашаць да сябе на адпачынак усё больш людзей.

І што толькі не стане магчымым, калі Бярлін па жаданню народа ўз'еднаецца пад агульным, дэмакратычным кіраваннем!

*Пераклад з нямецкай мовы*
*А. Ч.*

# ЛЕЎ ТАЛСТОЙ

**(9. IX. 1828 — 20. XI. 1910)**

*(Працяг са стар. 3)*

складанай «дыялектыкі душы», яго напружанае і палкае шуканне праўды, як і створаны ім новы тып эпічнага шматпланавага, шырокага апавядання, не маглі прайсці бясследна для беларускай літаратуры, якая зацвярджалася на пазіцыях рэалізма.

Літаратурныя ўплывы самі па сабе нічога не тлумачаць у працэсе развіцця літаратуры. Гаварыць аб іх ёсць сэнс толькі з улікам тых прычын, якія парадзілі гэтыя ўплывы, толькі з улікам прадпасылак гэтых уплываў. Толькі ў гэтым выпадку можна пазбегнуць выпадковых і няправільных вывадаў.

Леў Талстой не карыстаўся амаль ніколі ўплывам на беларускіх пісьменнікаў, як «прарок, які адкрыў новыя рацэпты вызвалення чалавецтва». Беларускія пісьменнікі не падзялялі яго рэлігіёзна-этычных поглядаў. Калі нават талстоўскае вучэнне і знайшло якое-небудзь адлюстраванне ў творчасці беларускіх пісьменнікаў, то яно настолькі слабое, што не мае істотнага значэння пры вызначэнні іх ідэйнай накіраванасці.

Але затое талстоўскі мастацкі метад адлюстравання рэчаіснасці і руху чалавечай душы прыцягваў і ў далейшым прыцягвае ўвагу беларускіх пісьменнікаў.

Аднак пакуль яшчэ не вывучана ўспрыняцце беларускай літаратурнай і грамадскай думкай вялікай творчай спадчыны Льва Талстога.

Савецкі народ старанна аберагае ўсё, што звязана з імем Талстога. Доказам гэтага можа паслужыць хаця б той факт, што ў бягучым годзе быў закончан Юбілейны Поўны Збор Твораў у 90 тамах, куды ўвайшлі ўсе мастацкія творы пісьменніка, яго дзённікі і лісты.

Мгр В.БЕЛАКАЗОВІЧ

**Да канцэрта беларускага калектыву песні і танца з Беластока**

# Гарні, гарні бульбу з печы

Гарні, гарні бульбу з печы. Так пачынаецца папулярная беларуская народная песня «Бульба». У сваю чаргу з «Бульбы» і пачынаецца праграма Беларускага народнага калектыву песні і танца з Беластока.

Што бульба мае цудоўныя якасці, аб гэтым пераконвае нас песня. Бульбу і пякуць і вараць і чаго толькі беларус з яе не вырабляе. Ці ж гэта песня, лепш ад іншых, не гаворыць аб вялікіх здольнасцях беларуса, аб яго вынаходлівасці, зараднасці. Але з песні слоў не выкінеш. Адначасова з пахвалой бульбы чуецца ў песні і нараканне «Прападзі ты, доля наша» — усё трэба зрабіць з гэтай бульбы!

Калі я слухаю выступленні нашага калектыву песні і танца, у мяне ўзнікаюць падобныя пачуцці.

Калектыў здольны, працавіты, ахвярны. І галоўнае — любіць сваю справу. На працягу двух год свайго існавання, даў нямала канцэртаў, і нямала пераадолеў перашкод, якія былі на яго ўзроставым шляху. Былі свае ўзлёты і ўпадкі, але ў якой працы іх няма.

І, урэшце, 25-га жніўня г. г. калектыў выступіў у тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку. Выступіў з поспехам. Перапоўнены тэатр не шкадаваў выканаўцам апладысментаў. І гэта радуе. Таму з цэлай сур'ёзнасцю трэба аднесціся да недахопаў у канцэрце. Бо магло быць лепш. Гэтыя недахопы могуць у будучыні прынесці шмат шкоды таленавітаму калектыву. Трэба іх пазбыцца як найхутчэй.

У чым справа? Перш за ўсё рэпертуар хору вельмі, вельмі аднародны: «Дзеванька», «Пайду, пайду Ясю мілы», «Кракоўскае вяселле», «Гэта было летам», «Цёмная ночка», «Вясёла бяседачка», «Янка», «А ты ехаў, ехаў...», «Жаўнер і панна», «Дайце з горачкі скаціцца», «У цёмным лесе мур мураваны», «Полька любэльская», «Лявоніха». Калі да гэтых песень дабавіць «Бульбу» і «Жыў на свеце Лявон», атрымаем цэлы рэпертуар хору.

Які змест 13 першых песень (з 15 наогул)? Усе яны ў розных варыянтах абыгрываюць адну тэму, якую можна ахарактарызаваць двума словамі: ён і яна. Яны танцуюць, п'юць, ядуць, маняць. Прытым надта ўжо многа ўвагі звернута на такія гукавыя эфекты як «У-ха!» «Гэй!», а мала на дыкцыю, асабліва ў беларускіх песнях. У рэпертуары хору няма ніводнай песні з Беласточчыны (!).

Вывад можна зрабіць толькі адзін: рэпертуар даволі прыпадковы. Праца над стварэннем уласцівага рэпертуару — адказвае заданне як кіраўніка хору, так і культурнай камісіі ГП БГ-КТ. Не шкодзіла б пры хоры стварыць рэпертуарную раду, якая дбала б пра рэпертуар. Ад уласцівай падборкі рэпертуару залежыць галоўнае: у якім напрамку будзе развівацца хор.

Пры падборцы рэпертуару, апрача зместу, неабходна звяртаць увагу і на магчымасці выканаўчыя. На маю думку, апрацоўка значнай часткі песень, якія выконвае цяпер хор, не пад сілу для аматарскага калектыву, а такім наш хор з'яўляецца.

Песня любіць гармонію і не паддаецца гвалту. Дзяўчаты і хлопцы з хору, хоць і жывуць у Беластоку, пераважна гэта дзеці вёскі, з усімі якасцямі народнай душы: шчырай, простай, любячай прастор. Аб гэтым найлепш сведчаць вечарынкі, якія ў мінулым харысты часта арганізавалі. На вечарынках плылі песні адкрыта, у поўны голас. І гэта для іх характэрна. Гэтую якасць трэба толькі належна выкарыстаць і ў ніякім выпадку не здушваць галасоў. Тады атрымаем сапраўдны народны хор. Найлепшым прыкладам могуць служыць нам савецкія народныя хоры, так папулярныя ў нас, якія, менавіта, на гэтым прынцыпе і працуюць. З карысцю было б павялічыць хор колькасна.

З цэлага апошняга беластоцкага канцэрта найбольш падышлі да густу публіцы: дуэт Аляксандра Яроцкая і Ніна Цыванюк у суправаджэнні Ніны Мушынскай і Пятра Нявінскага і саліст Васіль Кардзюкевіч. І гэта заслужана. Мясцовыя частушкі ў выкананні дуэта палоняць сваёй непасрэднасцю. А Аляксандра Яроцкая — сапраўдны частушачны талент. Дарагія частушачніцы, дашліфуйце тэкст частушак.

Васіль Кардзюкевіч вельмі ўдачліва выканаў рускую жартоўную песню «Не далёк той дзянёк». Калі сканцэнтруецца ён на жанры песень гэтага тыпу, можа дабіцца значных поспехаў.

Танцавальная група, на маю думку, развіваецца ў правільным напрамку, павялічваючы беларускі рэпертуар. Ды ў выкананні танцаў замала выразнасці. Бывае глядзіш і не разумееш, пра што расказвае той ці іншы эпізод у танцы. Большая прэцызія рухаў дазволіць гэтых недакладнасцей пазбегнуць. Заўважаецца таксама, што некаторыя танцоры механічна выконваюць свае ролі. Больш адчуваць танец!

Удачліва вышла спалучэнне танцавальнай групы з хорам («Лявоніха», «Янка»).

І, наканец, справа, ад якой у значнай меры, залежыць атмасфера публікі — гэта канферанс'е. Мілыя, давайце шукаць канферанс'е, без яго цяжка выступаць калектыву.

Вось і ўся бульба, якую захацелася мне выгарнуць. Веруючы ў цудоўныя якасці беларускай бульбы хочацца наперад далучыцца да хору і ўсклікнуць: О-го-го!

РЫГОР ЛЯСУН.

